# Значаньне савецкага касьмічнага лёту

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

нага аружжа, г. зн. як сяродкаў дастаўляньня атамных і вадародных бомбаў на месца назначэньня.

Роля ракет сярэдняй і вялікай адлегласьці, як «носьбітаў» ядзярнага аружжа, дастаткова ведамая. Менш ведамыя магчымасьці «спутніка» й таго, што ў СССР называецца «касьмічным караблём-спутнікам». Гэтыя спутнікі й «караблі», калі маюць дастатковую для гэтага грузаноснасьць, таксама могуць быць носьбітамі ядзярнага аружжа. Пры помачы дабавачнай ракеты яны маюць магчымасьць накіроўваць сваё ядзярнае аружжа на любую загадзя выбраную на Зямлі мэту. Інакш кажучы, яны могуць зьяўляцца як-бы касьмічнымі бамбардавальнікамі або вялікімі кіраванымі ракетамі тыпу «паветра-зямля», здольнымі доўга лётаць па арбіце, каб потым «на загад» зь Зямлі неспадзявана ўдарыць у намечаную мэту. Знайсьці эфэктыўную сыстэму абароны ад такіх спадарожнікаў-ракет яшчэ цяжэй, чымся супраць міжкантынэнтальных тыпу «зямля-зямля», бо лёт ракеты із спадарожніка будзе больш кароткім у часе, чымся палёт міжкантынэнтальнай ракеты, якая вымагае каля паўгадзіны часу для пакрыцьця 8-10 тысяч кілямэтраў адлегласьці. Маральны ўплыў сталай загрозы такіх ракетна-ядзярных спадарожнікаў, заўсёды кружачых у паветры, пралятаючых кажныя паўтары гадзіны над тэрыторыяй праціўніка, будзе шмат большы, чымся наяўнасьць у паветры далёка ад мэты сілаў стратэгічнай авіяцыі.

Далейшым важным фактарам, пацьверджаным як палётам «Вастоку», гэтак і папярэднімі выпрабаваньнямі далёкабежных ракет і «караблёў», трэба ўважаць наяўнасьць раду прадпасылак, абясьпечваючых савецкаму ракетнаму разьвіцьцю ў радзе сфэраў пакуль што дамінуючага палажэньня. Тэхнічнай прадпасылкай больш сільных савецкіх ракет зьяўляецца ўменьне выкарыстоўваць больш актыўны пальны матарыял. Аб гэтым сьветчаць усе дадзеныя аб савецкіх лятаючых целах.

Аналіза гэтых дадзеных пазваляе адцеміць наступнае:

1. Здольнасьць савецкіх вучоных і тэхнікаў выпускаць у стратасфэру й касьмічны прастор значна больш цяжкія ракеты й лётныя целы, чымся адпаведныя тыпы амэрыканскіх ракет і лётных цел. Гэтак, карабель-спадарожнік «Восток», ня лічучы вагі апошняй ступені ракеты, меў звыш 4,5 тонаў вагі. Праект адпаведнага амэрыканскага «Мэркура» прадбачыць вагу лётнага цела ў вадну тону. Вынікам зьяўляецца тое, што амэрыканскія тэхнікі змушаныя кампэнсаваць недастатковую сілу носнасьці амэрыканскіх ракет міньятурнасьцяй амэрыканскіх спадарожнікаў і іх інструмэнтальнага ўладжаньня, што ня можа ня мець адмоўнага ўплыву на дакладнасьці й надзейнасьці канструкцыяў.

2. Пасьлядоўнасьць разьвіцьця савецкай тэхнікі ракета-будаўніцтва, якая сьветчыць аб дасьпелым плянаваньні і ўменьні вызначаць галоўны кірунак і канцэнтраваць на ім усе натугі. Гэтак, першы этап (1957/58) паказвае працу над звычайнымі спадарожнікамі (3 выстралы), 1959 г. можа быць названы годам касьмічных ракет (3 «луньнікі»), 1960 — пачатак і 1961 год — пэрыядам касьмічных караблёў.

3. Спалучэньне дэманстратыўнага абясьпечаньня посьпеху выпрабаваньня із засакрэчанай узмоцненай чарнавой работай па падгатоўцы да большых выпрабаваньняў. Гэтак, кідаецца ў вочы вельмі малая колькасьць дэманстратыўных вялікіх савецкіх выпрабаваньняў у параўнаньні з амэрыканскімі. 14 савецкіх выпрабаваньняў за тры з палавінай гады, супраць 40 зь лішнім амэрыканскіх, ня лічучы каля 30 амэрыканскіх няўдачаў; у 1960 г. — тры савецкія супраць 14 амэрыканскіх выпрабаваньняў. У тым-жа 1960 г. у СССР, апрача выпуску трох касьмічных караблёў-спадарожнікаў і зонда на Вэнэру, былі выпрабаваныя чатыры звышцяжкія ракеты ў Ціхім акіяне, 167 выпрабавальных ракет у вышэйшых слаёх атмасфэры й 160 мэтэаралягічных ракет. У ЗША у 1960 г. выпрабавана, апрача 14 пасьпяховых запускаў спадарожнікаў, 80 выпрабавальных і 304 мэтэаралягічных ракет.

Важнымі прадпасылкамі гэтага разьвіцьця зьяўляецца такжа: а) цесная сувязь і перапляценьне ваенна-навуковых дысцыплін з агульнай навукай і як вынік гэтага — спэцыяльная роля войнаў, як «штурхачоў» тэхнічнага прагрэсу. б) характар камуністычнага рэжыму, бесьперапынна вядучага вайну з астальным сьветам, вайну таго або іншага віду — «гарачую» або «халодную», татальную або лякальную, эканамічную або палітычную, псыхалягічную або ідэялягічную. У выніку таго, што ўся сыстэма савецкай дзяржавы й ейнае эканамічнае структуры прытарнаваныя ў першую чаргу для ваенных патрэбаў, у Савецкім Саюзе ажыцьцяўляецца бесьперапыннае разьвіцьцё навукі й тэхнікі тымі-ж тэмпамі, што й падчас вайны, г. зн. хутчэй, чымся ў дэмакратычных краінах, асабліва ў галінах, зьвязаных з ваеннай тэхнікай. Дэмакратычныя дзяржавы ў пэрыяды «гарачых» войнаў аказваліся здольнымі да найбольш бліскучых дасягненьняў. Сьветчаць аб гэтым прыклады першай і другой сьветавых войнаў. Аднак адсутнасьць у дэмакратычным грамадзтве тае сьведамасьці, што пэрыяды «халоднай» вайны або «мірнага суіснаваньня» зьяўляюцца таксама войнамі, толькі іншага характару, зьяўляецца вялікай перашкодай у спаборніцтве ЗША й іхных саюзьнікаў з таталітарным камунізмам.

Камуністычны рух у сваім змаганьні з акружаючым некамуністычным сьветам зрабіў навуку й тэхнічны прагрэс запраўдным **ваенным** фактарам, пакліканым ня толькі абясьпечыць матарыяльную перавагу (у ўзбраеньні й эканоміцы) камуністычнага блёку над вольным сьветам, але й бесьперапынна прышчапляць свайму й акружаючаму сьвету ўпэўненасьць у перавазе савецкай навукі, савецкай тэхнікі й савецкай кампэтэнцыі над капіталістычным сьветам.

Уменьне савецкіх кіраўнікоў эфэктыўна «падаваць» свае посьпехі й адначасна хаваць свае няўдачы або абніжаць значаньне посьпехаў праціўніка — адзін з важнейшых фактараў у ведзенай псыхалягічнай вайне. Тое, прыкладам, што амэрыканскае разьвіцьцё ў галіне ракет «зямля-зямля» й «вада-вада» ў значнай меры ўжо перамагло тэхнічнае адставаньне ЗША, ведама толькі спэцыялістым, але ня шырокім колам грамадзкасьці. Дэманстратыўныя-ж посьпехі савецкай тэхнікі ў касмосе павінны ашаламліваць найбольш шырокія масы да глыбіні азіяцкіх і афрыканскіх джунгляў, хаця палётам савецкага касманаўта ўзаемадачыненьні абодвых бакоў на цяперашнім этапе яшчэ не нарушаюцца.

Дзеля гэтага галоўным значаньнем палёту ў касмос трэба ўважаць ўзмоцненыя магчымасьці для камуністычных кіраўнікоў, з аднаго боку, псыхалягічна дзеіць на насельніцтва ўнутры краіны, з другога сваімі тэхнічнымі дасягненьнямі імпанаваць шырокай грамадзкасьці вольнага сьвету ў разьліках на тое, што недастатковая стойкасьць, адсутнасьць дысцыпліны й нехаценьне самаабмежаваньня ў вольным грамадзтве пад уплывам савецкіх посьпехаў прывядуць да аслабленьня маральнага стану Захаду.

**(З «Аналізу Цякучых Падзеяў у СССР» Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне, № 178, за 2. 5. 1961 г.).**

# Культурна Рэлігійны Тыдзень у Чыкаго

## І ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЫ

У днях ад 1 да 5 ліпеня 1961 г. адбудзецца ў Чыкаго Культурна Рэлігійны Тыдзень Студыяў, злучаны ізь Зьездам Беларусаў з Зл. Ш. Амэрыкі, Канады і прадстаўнікоў з Эўропы, а так-жа з урачыстасьцяй высьвячэньня Беларускай Царквы Хрыста Спаса ў Чыкаго.

На гэты зьезд і ўрачыстасьці прыбудзе Яго Дастойнасьць Апостальскі Візытатар яп. Часлаў Сіповіч, каторы й высьвяціць новаўладжаную прыгожую царкву й Культурны Цэнтар Беларусаў у Чыкаго. Апрача ЯД яп. Часлава Сіповіча будзе прысутнае шматлікае мясцовае й прыежджае духавенства. Уладыка Часлаў Сіповіч таксама адчыніць Культурна-Рэлігійны Тыдзень Студыяў, ды будзе ўдзельнічыць у яго працах.

Праф. А. Адамовіч з Новага Ёрку й Др. Пётра Татарыновіч з Рыму выступяць з дакладамі на сучасныя важныя беларуска-нацыянальныя тэмы. Наладжаны будзе вялікі беларускі канцэрт з удзелам многіх артыстых, як сп. сп. Надзеі Градэ, Полі Мартыновіч, Грыбавай; слаўнага нашага баса Пётры Конюха, тэнэра Стэфана Віціка і іншых. Выступіць таксама й мясцовы Беларускі Хор. Зь іншых атракцыяў прадбачваецца супольны абед, пікнік у Лаел, таварыскія скокі.

Запрашаем усю беларускую эміграцыю прыняць удзел у гэтых вялікіх урачыстасьцях дзеля дабра нашага народу. Ува ўсіх справах, зьвязаных з Культурна-Рэлігійным Тыдзенем, Зьездам і Высьвячэньнем Беларускай Царквы, зьвяртацца: Камітэт Культурна-Рэлігійных Студыяў у Чыкаго, 3107 Вэст Фулертон Авэ. Чыкаго, Ільл.

**Камітэт Культ. Рэл. Студыяў**

# Эканамічная няволя

Ня гледзячы на ўсю віртуознасьць бальшавіцкае прапаганды, аднаго факту яна апошнім часам ніяк затаіць не можа: сельская гаспадарка БССР знаходзіцца далёка ў незайздросным, ці дакладней — проста ў катастрафальным стане. Ня гледзячы на ўсе прапагандовыя выкрутасы аб гэтым выразна сьветчаць і справаздачныя матарыялы з апошняга V пленуму ЦК КПБ.

Працаўніком сельскай гаспадаркі БССР на 1961 год былі ізноў накінутыя павышаныя забавязаньні. Як паказвае першы квартал гэтага году, у бальшыні выпадкаў забавязаньні гэтыя ня толькі ня выкананыя — цэлы шэраг прыкладаў гаворыць аб тым, што шмат дзе сельска-гаспадарчая прадукцыя **зьніжылася** ў параўнаньні зь мінулым годам. А як ведама, вынікамі мінулага году партыйныя эканомы ў Беларусі пахваліцца ніяк ня могуць: на апошнім пленуме ЦК КПСС Хрушчоў разносіў іх за тое, што БССР узяла летась збожжа зь дзяржаўных складаў амаль утрая больш, чымся здала дзяржаве. Аб тым, якім чынам выконваюцца пляны здачы, скажам, малака — таксама ўдоваль матарыялаў і ў справаздачах пленумаў, і наагул у савецкай прэсе.

Вось аздін з пашыраных мэтадаў: сучасны абшарнік — старшыня калгасу купляе «па блату» ў каапэратыве прызначанае для спажыўцоў масла — зразумела, за калгасныя грошы — і здае яго дзяржаве, такім чынам «выконваючы», а то і «перавыконваючы» плян здачы малака...

Як мы казалі, затаіць катастрафальнага стану сельскай гаспадаркі БССР ня можа ўжо і бальшавіцкая прапаганда. Каб затушаваць яго, яна шырока расьпісваецца аб посьпехах і росьце прамысловасьці БССР. Маўляў, «пад мудрым кіраўніцтвам роднай партыі» Беларусь ператварылася з адсталай аграрнай у высока індустрыялізаваную краіну. У параўнаньні з 1913 годам, валавая прамысловая вытворчасьць Беларусі павялічылася ў 30 некалькі разоў, у параўнаньні з даваенным станам (на ўвазе стан перад апошняй вайной) — прамысловая вытворчасьць узрасла на 400 працэнтаў.

Гэтыя лікі робяць, бязумоўна, немалое ўражаньне. Бяручы агулам — яны правільныя. Праўда і тое, што БССР перавыконвае цяпер у галіне цяжкой прамысловасьці лікі, прадбачаныя сямігадовым плянам.

Здавалася-б, кажнаму Беларусу ёсьць чым ганарыцца. Аднак кажны чалавек із здаровым розумам ня можа ня прыйсьці да выснаву, што індустрыялізацыя ня можа быць самамэтай. Кажная вольная краіна, улічваючы свае магчымасьці і патрэбы, намагаецца разьвіваць тыя галіны народнай гаспадаркі, якія прыносяць найбольш карысьці свайму народу, інакш кажучы — якія найбольш эфэктоўна спрыяюць павышэньню дабрабыту насельніцтва. Гэта зразумела і натуральна. Возьмем адзін характэрны прыклад. Сьведама бярэм не якую-небудзь заходнюю дэмакратычную дзяржаву, а адну з краінаў камуністычнага блёку — Польшчу.

Як ведама, усе эўрапэйскія краіны з камуністычным рэжымам належаць да эканамічнай арганізацыі «КАМЭКОН». Раней Масква дыктавала згары гэтым краінам эканамічную палітыку, выходзячы з сваіх уласных інтарэсаў — так, як яна і цяпер дыктуе саюзным рэспублікам, у тым ліку і БССР. Аднак, часы мяняюцца. У Польшчы, ў 1956 годзе прыйшоў да ўлады Гамулка, які абвесьціў аб сваёй наважанасьці весьці Польшчу сваім уласным шляхам да сацыялізму. Гэта, зразумела, адбілася ў першую чаргу на эканамічнай палітыцы Польшчы. Прыкладам, паводля плянаў прыгаданага намі КЭМЭКОНУ, Польшча павінна была ўкласьці вызначаную колькасьць капіталаў у распрацоўку залежаў меднай руды, вугалю і гэтак далей. Гамулка выказаў станоўкі супраціў, даказваючы, што капіталы гэтыя, укладзеныя ў іншыя галіны народнай гаспадаркі, прынясуць для Польшчы за кароткі час куды большыя прыбыткі і пакрыюць куды больш пякучыя патрэбы польскага насельніцтва. Капіталы-ж, укладзеныя ў распрацоўку, скажам, меднай руды, могуць прынесьці першыя прыбыткі толькі праз 15—20 год, і пры гэтым занядбоўваліся-б іншыя галіны народнай гаспадаркі. Гамулка дамогся свайго і цяпер распрацоўку польскіх медных залежаў фінансуе Чэхаславаччына. Узамен за гэта яна атрымае ў свой час польскую сыравіну. Такім чынам Гамулка супрацівіўся чужой экспляатацыі народных рэсурсаў і капіталаў свае краіны.

Як-жа выглядае гэтая справа ў нас? Ці пры разбудове прамысловасьці ўлічваюцца ў першую чаргу патрэбы Беларусі? У ніякім выпадку. Што, прыкладам, дае Беларусі той факт, што БССР займае ў Савецкім Саюзе адно зь першых месцаў у галіне прадукцыі мэталаапрацоўчых станкоў? Станкі гэтыя амаль зусім не выкарыстоўваюцца ў Беларусі — усёй іхнай прадукцыяй распараджаецца паводля свайго пагляду Масква. Або трактары і аўтамашыны: калгасы ня могуць дастаць навет запасных частак, а беларускія трактары высылаюцца недзе ў Бірму, Эгіпт і гэтак далей. Экспартам назваць гэтага ніяк нельга — гэта просты рабунак. Толькі вольная краіна балянсуе свой экспарт і імпарт паводля сваіх патрэбаў. У вольнай краіне балянсуецца таксама разьмеркаваньне капіталаўкладаў паміж рознымі галінамі прамысловасьці — цяжкай і лёгкай — маючы заўсёды на ўвазе забясьпечаньне патрэбаў насельніцтва. У Беларусі-ж навет найменшыя спробы ў гэтым кірунку былі адразу зганьбаваныя Масквой, як «месьніцтва».

І вось перад намі вобраз народнай гаспадаркі Беларусі: сельская гаспадарка, якая калісьці навет у прымітыўным стане магла экспартаваць свае прадукты — цяпер у поўным заняпадзе; індустрыя, выхвальваная бальшавіцкай прапагандай — зьядае ўсе капіталаўклады пераважна ў тых галінах, якія даюць карысьці не Беларусі, а маскоўскаму цэнтру. У выніку — нізкі ўзровень насельніцтва. Ці-ж гэта не экспляатацыя? Ці гэта не эканамічная няволя?

**Ул. Немановіч**

# Творы Алеся Гаруна

## Вершы па-за „Матчыным дарам“

**(Працяг)**

### БАЖАНЬНЕ

Не прашу я, Божухна, скарбамі ўладаці, —
Дай мне толькі сілы зарабляць, каб жыць,
Каб і ў дзень, як прыйдзе мне душу аддаці,
Хлеб я свой штодзённы працай мог здабыць.
Не прашу я, Божухна, Твайго сьвету знаці —
Ўсе пачаткі, зьмены і канцы, і рух, —
Дай адно людзкую праўду мне паняці
І яе быць верным, найпадданьшым з слуг.
І усё тут, Божухна, чым патурбаваці
Я хачу сягоньня, просячы Цябе:
Дай мне праўду знаці і ў людзях спаўняці,
І заўсёды з працы хлеб свой мець сабе.

Барка на Лене, 1914 г.

### ПЕСЬНЯ КАПАЧОЎ

У цяжкай працы мы жывём,
Спачынку мы ня знаем,
Ядзём нясмачна, горка п'ём,
А што за гэта маем?
Пагарду тых, каму ідуць
Работы нашай плёны,
Што нашай працаю жывуць
Спаёны і скармлёны.
Руку нам грэбуюць падаць:
Ім простасьць разіць вочы,
Душы ня хочуць нам прызнаць,
Бо мы — народ рабочы.

Глядзяць на нас, як на сваіх
Валоў нямых, бясслоўных:
Працуй, працуй ды слухай іх,
Тваіх паноў знароўных.

Сваёй ня важся воляй жыць,
Стлумі свой розум просты:
Парадкі іхныя судзіць,
На гэта — не дарос ты!

Зь дзяціных дзён, аж да труны
Цярплівасьці нас вучаць,
Спрабуй ня слухаць іх — яны
Бязь літасьці замучаць.

У вадно зьмяшаныя з быдлём,
Мы так жылі адвеку,
Аднак, мы ўборзьдзе зажывём,
Як сьледна чалавеку.

Панамі ў сьвеце будзем мы
І свой лад пастановім, —
Насталім толькі ўсе ламы
І дзюбы кайл падновім!

Прыіск «Прокопьевский», зіма 1915 г.

**Зацемкі аўтара.** 1. «Капачамі» завуцца на залатых прыісках людзі, што не працуючы, як іншыя работнікі, ці працуючы толькі для вока, займаюцца здабычаю золата на сваю руку з старых шахтаў, пакінутых пяскоў і г. д., што забараняецца як гаспадарамі, так і горнай паліцыяй. Гэта сьмелыя, адважныя, спрытныя людзі, часта багатыя, працуючы толькі дзеля мілаваньня капацтва, зь вялікай асабістай амбіцыяй і з асабліва гостра-крытычным стасункам да сучаснай сацыяльнай няроўнасьці.

2. «Кайла» — начыньне накшталт аднадзюбага малатка якім рудакопы выкалупваюць і выбіваюць зь зямлі патрэбны ім пласт пяску зь цяжкою рудой, каменным вугальлем, залатым пяском і г. д.

### ВІДЗЕНЬНЕ

**(З гадоў нядолі)**

Ідзець яна адна з адкрытай галавой,
Рызман расхрыстаны, вісіць падзёрты на грудзях,
З вачэй яе глядзяць, прыймглёныя сьлязой,
Сардэчны боль нязьмераны, а зь ім бязглузды страх.
Праходзіць шлях яе між пушчаў і лясоў,
Засьмечаны карчамі скрозь і дрэў сухім вяцьцём,
З тых пушч 'сьцяж чуюцца мільёны галасоў,
Якія гоняцца за ёй з праклёнамі, з выцьцём.
А дзе-ж яе сям'я? Дзе кроўныя сыны?
Куды усе падзеліся? Хаця-б хто дапамог?
— Пакрыўдзіў род ліхі, і зрадзілі адны
Зь дзяцей. Другіх забраўшы, зноў ёй крыўду справіў Бог.
Куды-ж яна ідзець сірочаю ступой,
Ці ведае, куды той шлях, якім ідзець, ляжыць?
О, не! яна ідзець, бо мусіць хоць сьляпой,
Хаця каб вобмацкам ісьці, каб толькі жыць, каб жыць!

Восень 1918 г.

### ПРАЛЕСКІ

Прынесьлі вы чароўныя дары вясны — пралескі,
У добрасьці сьвятой іх для мяне сваім зрабіўшы дарам,
Як колер гэтых кветачак, так подум ваш — нябескі, —
Прыйсьці, парадаваць вясной мяне ў маім замкненьні шарым.

Зрабіўся мой пакой цяпер — прыскрынак цесны мескі —
Тайгой шумліваю на шчыце гор, паблізку к сонцу, к хмарам,
Ляжу у ёй, хваін жывучы пах п'ючы і горных зёлкаў,
А ў думках і ў вачку — прапышная паўночная фіёлка.

1920

# Адкрыты ліст да сп. Ч. Будзькі

Вельмі-Паважаны Спадару!

У сваім артыкуле пад назваю «Пачатак кар'еры Канстанціна Паклонскага», зьмешчаным на балонках №№ 10 й 11 (545—546) «Бацькаўшчыны» за 12 сакавіка г. г., Вы далі вельмі цікавую манаграфію аб Канстанціне Паклонскім, асоба якога была дагэтуль мала ведамая шырэйшаму беларускаму грамадзтву. Дадам гэтта, што гэтаксама мала ведае нашае грамадзтва й наагул аб, так слушна Вамі названай, «Беларускай вялікай айчыннай вайне з Маскоўшчынай 1654—1667 г.». За часоў згаданае вайны на Беларусі адбылося не адно Магілеўскае Паўстаньне, а цэлы шэраг народных паўстаньняў супроць маскоўскага панявольніка. Памінаючы Магілеўскае, аб падобных паўстаньнях у Крычаве, Амсьціслаўлі, Воршы, Азершчыне ды інш. мясцох прыгадваюць навет расейскія гісторыкі. Мы, адылі, мала аб іх ведаем дзеля таго, што ані ў Крычаве, ці Воршы ня здарылася ў тыя часы гэткага дакладнага й сумленнага навочнага сьветкі, як Ігумэн Арэст, што апісаў увесь прабег паўстаньня Магілеўскага жыхарства супроць Маскоўскага войска, або, калі такія сьветкі й былі, сьветчаньні іхныя загінулі й да нас не дайшлі. Таму — Вялікая беларуская айчынная вайна з Маскоўшчынай 1654-1667 гадоў павінна быць дакладна вывучаная нашымі гісторыкамі, апрацаваная імі й паданая да ведама беларускага грамадзтва, як прыклад нязвычайна навежанага й ахвярнага вайсковага чынунамаганьня нашых продкаў у вабароне незалежнасьці свае Бацькаўшчыны.

Было-б вельмі пажадана, каб якраз Вы, паважаны сп. Будзька, узяліся, хай пакрысе, за гэтую вялікую й паважную працу.

У прыгаданым ужо Вашым артыкуле ў «Бацькаўшчыне» ёсьць, адылі, заўвага, зь якою я ніяк не магу пагадзіцца. Вы пішаце:

— «Калі-ж гаварыць аб людзях запраўды наіўных, дык да такіх у першую чаргу трэба было-б залічыць тых з нашых гісторыкаў, якія, для прыкладу, пераход Літоўскага гэтмана Януша Радзівіла да Швэдаў разглядаюць, як аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага».

Ці-ж запраўды гэтыя гісторыкі гэткія наіўныя?

На вялікі жаль, у нас, Беларусаў, няма ня толькі паважнейшае навуковае працы, што выяўляла-б ролю гэтмана Януша Радзівіла ў Вялікай вайне 1654-1667 гг., але й звычайнага сьціплага газэтнага артыкулу на гэтую тэму. Аб Янушу Радзівіле нам даводзіцца зьбіраць весткі з працаў чужых, пераважна польскіх ці расейскіх гісторыкаў. І вось, навет гэтыя чужыя адназгодна сьветчаць, што ў васобе Вялікага Гэтмана Літоўскага Радзівіла, падабаецца ён ці не нашым суседзям з захаду ды ўсходу, мы маем бескампраміснага ворага Маскоўшчыны. Калі ў траўні 1614 г. маскоўская армія перайшла межы Літвы, Януш Радзівіл, адно сіламі Вялікага Княства Літоўскага, ставіў зацяты адпор захопніку. Сілы гэтыя былі вельмі нясумерныя ў дачыненьні да маскоўскіх, аднак, навет змушаны адыйходзіць, Януш Радзівіл патрапіў спрычыняць маскоўскаму войску вялікія страты, як, прыкладам, пад Смаленскам, Воршай, Барысавам і Вільняй, і, наагул, зрабіў максімум таго, што можна было зрабіць. Польшча нічым не магла дапамагчы Радзівілу ў гэтым змаганьні, бо сама была ў гэтым часе ў цяжкой вайне з маскоўскім войскам ды войскам маскоўскага саюзьніка Багдана Хмяльніцкага на Ўкраіне. Апрача гэтага, крыху пасьлей, уся Польшча, з Варшаваю й Кракавам улучна, была занятая Швэцкаю арміяй. Януш Радзівіл, пакінены гэткім чынам сам сабе, перад Масквою, адылі, не скапітуляваў. Не перайшоў ён гэтаксама й да Швэдаў, як Вы, паважаны сп. Будзька, зазначаеце. Януш Радзівіл падпісаў із Швэдамі не зрачэньне, а вайсковы саюз ад імя Вялікага Княства Літоўскага, падпісаў умову, як прадстаўнік суверэннае дзяржавы. На моцы гэтае ўмовы Вялікае Княства Літоўскае ірвала пастановы Люблінскага Сойму з 1569 г., паводля якіх яно фэдэратыўна лучылася з Польшчаю ў вадну Рэчпаспалітую. Швэцкі кароль, з свайго боку, абавязаўся даць Вялікаму Княству Літоўскаму дапамогу ў ягоным змаганьні супроць Маскоўшчыны, аж да аднаўленьня гістарычнае мяжы Вялікага Княства Літоўскага на ўсходзе. Гэтая ўмова, падпісаная між Швэцкім каралём і Янушам Радзівілам, і сталася якраз прычынаю абвешчаньня царом Аляксеем Міхайлавічам вайны Швэцыі ў 1655 годзе.

У незалежнай Летуве Януш Радзівіл уважаны быў (прынамся да заняцьця Летувы Саветамі) за нацыянальнага героя. Прыводжу на пацьверджаньне гэтага, у перакладзе на беларускую мову, выпіску з артыкулу былога польскага вайсковага аташэ ў Летуве ў 1938-39 гадох, палкоўніка Леона Міткевіча, зьмешчанага ў польскім месячніку «Культура», што выдаецца ў Парыжы, за месяц ліпень-жнівень 1959 г., № 7/141 — № 8/142 пад загалоўкам: «З Ковенскіх успамінаў 1938/39». Палкоўнік Леон Міткевіч наведаў у Коўні вайсковы музэй і апісвае ў згаданым артыкуле сваё ўражаньне з залі, прысьвечанай памяці Радзівілаў. Між іншым, ён піша:

«Асабліва шануецца ў сяньняшняй Ліцьве памяць Януша Радзівіла. У ўпрыгожаных габлётках разьмешчаныя арыгіналы (або добрыя копіі) пактаў, падпісаных князем Янушам Радзівілам з каралём Швэцкім Густавам Адольфам, а ў запраўднасьці із швэцкім генэралам, што дзеіў ад ягонага ймя, аб аддзяленьні Вялікага Княства Літоўскага ад Кароны Польскай, ад Рэчыпаспалітай. У Рэчыпаспалітай, даўнейшай і сучаснай, Януш Радзівіл займае ў гісторыі гэнага нязвычайна сумнага пэрыяду (палова 17-га стагодзьдзя) цалкам іншае месца; ён лічыцца, калі ня здраднікам, дык ворагам адзінства Літвы з Польшчай, ворагам адзінае Рэчыпаспалітае.»

З прыгаданае выпіскі відаць, што Януш Радзівіл падпісаў із Швэцкім каралём не адну, а колькі ўмоваў — пактаў. Але колькасьць ня грае тут ролі. Важнае тое, што, каб Януш Радзівіл запраўды перайшоў да Швэдаў, як звычайны перабежчык, дык Швэцкі кароль не падпісваў-бы зь ім аніякіх умоваў, а Летува не ўважала-б Януша Радзівіла сваім нацыянальным героем і не шанавала-б так урачыста ягонае памяці, як аб гэтым піша польскі палкоўнік Леон Міткевіч.

Вось, я й зьвяртаюся да Вас, спадару Будзька, аднаго із здальнейшых нашых гісторыкаў з прапановаю, спрабаваць выявіць справу да канца й дакладна дасьледваць ролю Януша Радзівіла ў вайне 1654-1667 гадоў, каб мы, Беларусы, спадкаемцы тых, што баранілі незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага пад ягонаю камандаю, ведалі, ці маем уважаць яго за свайго гістарычнага нацыянальнага героя ці за здрадніка, якім лічаць Януша Радзівіла Палякі.

З праўдзівай да Вас пашанай

**Ф. Кушаль**

# Яшчэ аб моўнай рэформе ў СССР

На старонках «Бацькаўшчыны» шмат зьвярталася увагі на праведзеную моўную рэформу ў школах нацыянальных рэспублік. Каб яшчэ раз давесьці да ведама нашых чытачоў, што гэтая рэформа загадзя падрыхтаваная й ськіваваная на паступовую русыфікацыю нерасейскіх народаў, зьвернемся тут да савецка-расейскага моўнага эксьпэрымэнту над карэльскім народам.

Папершае, што такое Карэлія й Карэлы? Этнічна Карэлы адносяцца да групы фінскіх народаў. Гістарычна яны ўжо з даўняга часу ўваходзяць у склад расейскага гаспадарства. Раней, у XII—XV стагодзьдзях, Паўднёвая Карэлія падпарадкавалася Ноўгарадзкай рэспубліцы, пасьлей перайшла да Маскоўшчыны, а затым улілася й у Расейскую імпэрыю. У Карэліі жыве таксама шмат чыстакроўных Фінаў, асабліва з часу вайны 1940 году. У 1923 годзе Карэлія была праклямаваная Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай; у сакавіку 1940 году была пераtвораная у Карэла-Фінскую ССР; у ліпені 1956 году — зноў у Карэльскую АССР.

Як бачым, ужо на гэтай трансфармацыі яскрава адлюстравалася так званая «ленінская» нацыянальная палітыка Масквы зь яе дальнявіднымі мэтамі й у той-жа час фікцыяй. Карэльская АССР утварылася не адразу пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту 1917 году, але ў часе рабленьня стаўкі на «сацыялістычную» рэвалюцыю ў Фінляндыі; Карэла-Фінская ССР пры канцы савецка-фінскай вайны й пасьля фіяска сталінскага экспэрымэнту з утварэньнем «Фінскай савецкай рэспублікі»; і апошняя была зьліквідаваная ў 1956 годзе, калі загасьлі ўсе спадзяваньні на савецкі «ку д'эта» ў Фінляндыі.

Як падаюць савецкія крыніцы, у 1956 годзе ў Карэльскай АССР пражывала 615 тыс. чалавек насельніцтва, пераважна Карэлаў. Гэта — не малаважная этнічная група, якая таксама мае свае асьпірацыі й мае права на жыцьцё. Гэтая этнічная група, якая прызнаецца народам ужо з факту утварэньня Карэльскай АССР, а затым і Карэла-Фінскай ССР, праз доўгія стагодзьдзі расейскага панаваньня ня страціла свайго нацыянальнага аблічча, прытрымоўваючыся сваіх традыцыяў і галоўнае роднае мовы. Гэта прызнаюць аўтары тут важнага для нас артыкулу — інспэктара-мэтадыстага Галоўнай управы васьмігадовых школаў Міністэрства асьветы РСФСР Д. Коржа і навуковага супрацоўніка Інстытуту нацыянальных школаў Акадэміі пэдагагічных навук РСФСР Л. Анісімавай. У гэтым артыкуле, які быў зьмешчаны ў часапісе **«Народнае образование»** (№ 3, 1961) пад назовам «Улічваць асаблівасьці працы нерасейскіх школаў», яны канстатуюць: «Аднак у штодзённым жыцьці, у сям'і Карэлы, як правіла, гавораць на роднай мове. У школах дзеці на перапынках гавораць між сабой пакарэльску. Ды й настаўнікі, працаўнікі раяно-Карэлы таксама часта пераходзяць на родную мову . . .»

Што-ж сталася? Як даведваемся з вышэй названага артыкулу й ад вышэй названых высокапастаўленых асобаў, моўная рэформа, падобная моўнай рэформе ў школах нацыянальных рэспублік з 1959 году, у Карэліі была праведзеная яшчэ ў 1954 годзе. Як зазначаюць Д. Корж і Л. Анісімава, да 1954/1955 навучальнага году ўва ўсіх карэльскіх школах з нацыянальным складам вучняў навучаньне праводзілася на фінскай мове. Пачынаючы з 1954—55 навучальнага году афіцыяльнай мовай навучаньня тут сталася расейская мова, пры гэтым згодна навучальнай праграмы, пляну й падручнікаў, якія прыстасаваныя для самых расейскіх школаў. Гэта сталася, як зазначаюць крывадушна Д. Корж і Л. Анісімава, «в соответствии с желанием родителей», г. зн. самых Карэлаў. Фінская мова яшчэ заставалася абавязковым прадметам, аднак, пачынаючы з 1958/59 навучальнага году, фінская мова наагул страціла сваё значаньне ці «абавязкавасьць». Яна можа вывучацца, калі гэтага «пажадаюць» вучні, а можа й зусім ня выкладацца. Трэба прадбачваць апошняе, бо такая ўжо савецкая практыка.

Гэтае прымусовае насаджэньне расейскай мовы Д. Корж і Л. Анісімава апраўдваюць тым, што Карэлы ня маюць свае пісьменнасьці, добра валодаюць расейскай мовай, а таксама тым, што быццам для іх фінская мова ёсьць «такой незразумелай», як і любая чужая мова. Бязумоўна, у дзяржаве з шмат нацыянальным складам насельніцтва ня можна прытарнавацца да пажаданьняў кажнае найменшае этнічнае групы, і зусім натуральным зьяўляецца навучаньне такое групы на асноўнай дзяржаўнай мове.

Аднак у дадзеным выпадку ці выпадку разгледжанай моўнай рэформы ў Карэліі справа іншая. Савецкі Саюз лічыцца многанацыянальнай дзяржавай «раўнапраўных нацыяў». Гэтую «раўнапраўнасьць» афіцыйна абвяшчае й усяляк прапагуе Масква. Пры гэтым у Карэльскай АССР, якая, як зазначалася, не такая ўжо й маленькая, бадай праз 40 гадоў навучаньне ажыцьцяўлялася на фінскай мове, мове бліскай і навет роднай Карэлам. Гэтыя два фактары выбіваюць аснову для так раптоўнага пераключэньня на расейскую мову ды вымагаюць «падтрыманьня» папярэдняе шматгадовае традыцыі іграньня ў гэты прынцып «раўнапраўнасьці».

Зусім не апраўдоўвае гэтае пераключэньне на расейскую мову той факт, што Карэлы «ня маюць свае пісьменнасьці». Гэта запраўды бумэранг дасюль знанай савецкай нацыянальнай палітыкі, што цьвердзіць навонкі пра пакліканьне да «нацыянальнага й культурнага жыцьця» дзесяткаў народаў, якія «раней жылі ў першабытным стане». Карэлаў, думаем, усё-такі да апошняе катэгорыі аднесьці ня можна, аднак і яны за 40 гадоў «савецкага нацыянальнага росквіту» навет не здабыліся на сваю пісьменнасьць. Цяжка паверыць, што ў гэтым вінаватыя Карэлы, тым больш, што братняя ім Фінляндыя славіцца сваёй высока разьвітай культурай.

Хоць Масква й намагаецца выцісьнуць родныя мовы нерасейскіх народаў, яны аднак жывучыя й адпорныя. Гэта наглядаецца й у Карэліі. Д. Корж і Л. Анісімава сьцьвярджаюць тыя цяжкасьці, зь якімі сустрэлася школьная моўная рэформа ў Карэліі. У першыя клясы пачатковых школаў карэльскія дзеці прыходзяць, ня знаючы расейскай мовы, а таму настаўнікам прыходзіцца паслугоўвацца дзьвюма мовамі — карэльскай і расейскай. З гэтае прычыны названыя мэтадыстыя прапануюць прывіваць расейскую мову карэльскім дзецям яшчэ ў дзіцячых садох. Што-ж, можна й гэта зрабіць пры жаданьні й падтрымцы «роднае партыі». Адначасна Д. Корж і Л. Анісімава раскрываюць і больш шырокія пляны — перанясеньне карэльскае практыкі ў іншыя «нерусские школы».

Бязумоўна, школьная моўная рэформа, праўдзівей практыка канчатковага выкараненьня роднае мовы ў Карэльскай АССР зьвязана як з намаганьнем «просечь сепаратистские уклоны» карэльскага народу, так і з агульным плянам моўнае русыфікацыі ўсіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу наагул, што наглядна паказала школьная моўная рэформа ў нацыянальных рэспубліках 1959 году. На гэтым этапе Карэлія аказалася першай дзялянкай канчатковага выпрабаваньня. Трэба спадзявацца, што ў выніку гэтага хутка зьнікне з карты й Карэльская АССР, як зьнікла Карэла-Фінская ССР, а там і іншыя савецкія нацыянальныя рэспублікі. На іхным месцы закрасуецца «камуністычная» РСФСР з аднэй мовай, аднэй культурай і аднэй гісторыяй — традыцыйная турма народаў Расея.

Такім чынам яшчэ больш спатрэбяцца касьмічныя караблі для высяленьня «буржуазных нацыяналістых», тым больш, што ўжо яны цяпер, як паказаў прыклад Гагарына, завяршылі мур «камунізму».

**П. Залужны**

---

### БЕЛАРУСКІ МАРШ

Вецер сядравы пранёсься над борам,
Смагаю жыцьця абвеяў лісты.
«Слухайце ўважна, людзі пакоры!
Йдзе вызваленьне, ўставайце, браты!»
Разам, наперад, шлях працярэбім
Простым людзём да людзкога жыцьця!
І Беларусь-Маці долю агледзіць,
Устане, як Лазар, з руін, з забыцьця.
Сьціха пачалі шаптацца вяршыні,
Іхну гаворку пачуў увесь лес,
І загрымелі мільлёны галінаў:
«Годзе ўжо зьдзеку! Народ уваскрэс!
Разам, наперад . . .
З захаду, ўсходу на нашыя шыі
Селі б'ючыся два хіжых крукі,
Каб змацавацца, крою нашу пілі,
Гэтак заснуў наш народ на вякі.
Разам, наперад . . .
Сон горш за сьмерць! Ірвуць цела жывое,
Дзеляць на часткі суседзі-зьвяры.
Вырвалі сьмехам і сэрца з душою,
Суд рассудзілі: памёр без пары.
Разам, наперад . . .
Толькі-ж ня зьнішчыць дух наш народны!
Вецер на крыльле яго падхапіў,
Стаў ён зьяўляцца тады сыном родным,
Сон іх будзіць, каб усталі, ішлі.
Разам, наперад . . .
Тры зыркіх зоркі у цёмную поўнач
У будучыню нам сьцежку ясьняць,
Завуцца-ж: воля, брацтва і роўнасьць,
Будзем крывёй іх сваёй здабываць.
Разам, наперад . . .
Тых, што пагінулі ў бойцы за праўду,
Тых, што вякуюць у турмах гнілых,
Усіх памятайма, пакуль дамо рады,
Зволнім старонку, памсьцімся за ўсіх.
Разам, наперад . . . 1917

### ПАХОДНАЯ

Загрымелі ў барабаны,
Заігралі ў трубы,
Раскаціўшы грукат грому
Чалавечай згубы.
Закурылася дарога,
Заірзалі коні,
Праваджала маці сына
Па зялёнай бłоні.
Залівалася сьлязіма
Каля стрэмя йдучы:
«Завісаюць над табою,
Галубок мой, тучы.
Загнятуць цябе марозы,
Мой пякнюткі кввеце,
Застануся я зязюлькай,
Сіратцінкай ў сьвеце».
Суцяшаў яе хлапчына:
«Супакойся, мама,
Не на векі ты за мною
Зачыніла браму.
Яшчэ будзе вараненькі
Капыцейкам біці:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадыня,
Сыну адчыніці!
Яшчэ будзе вараненькі
Весела ірзаці:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадыня
Сына сустракаці!» 1918

### АПЯКУН
### (Байка)

Ня дарма прыказка ў народзе:
Бяда адна к нам ня прыходзе.

У вялікім і багатым месьце,
Здаецца, на усходзе дзесьці,
Ўдава, йшчэ моцная кабета,
Памерла раптам. Праўда гэта,
Што сьмерць людзём не навіна,
Але-ж пакінула яна
Дзяцей, каторых гадавала,
Тых, што дадзёнка лупцавала
І так таўкла, як крупы ў ступе,
Затое, што трымала ў купе.
Няшчасныя ня зналі дзеці,
Куды сябе зь бядой падзеці,
Каб з сэрцам людзі не знайшліся,
Што памагчы ім узяліся.
Суседзі, бачыце, успомніўшы аб Богу,
А можа ўгледзіўшы сабе перасьцярогу,
Сказалі, як адзін: «Паможам,
Чым можам!»
Знайшлі Марыльцы жаніха —
Была дзяўчына у пары,
А Пятруська за пастуха
Служыць аддалі у двары.
— Каму-ж бы Янучку аддаць?
Гадкоў, здаецца, меў ён зь пяць.
— Ну, што-ж, хай будзе мой хлапец! —
Сказаў знаёмы ўсім шавец,
Які ў суседнім жыў даму.
Шаўцу таму
Сваіх дзяцей ніхто ў навуку не даваў,
Бо кажны добра знаў,
Што у шаўца — дзіцяці мука — не навука!
Сам п'яніца, гультай і абібок,
А з вучняў выціскаў ўвесь сок,
Бывала, да цямна сушыў іх за работай.
— Я, — кажа, — хлопчыка з ахвотай
Сабе вазьму.
Імя сваё і цэх яму
І хлеб штодзённы дам.
Дык мо здаецца вам,
Што праўду шчырую пачуў ён ад народу?
— Суседзі далі згоду.
Рацыю трэба вам? — Заўсёды слабым гора, —
Увесь сьвет так гавора.
1918

### КЛІЧ

Гэй, народзе, трэба ўстаць,
Дух свой з рабства распрастаць, —
Чуеш: Волі зычны звон
Будзіць, кліча медзяй ён
Усе народы ўсіх старон,
Каб разбурыць крыўды трон.
Скрозь, куды хаця зірні, —
Зьдзівіць зь дзіва дзіваў цуд:
У небе літары — агні.
Сьвецяць ночы і пры дні —
«Вызваль дух свой, рабскі люд!»
У гэты час праклятым будзь,
Хто свой карак схоча гнуць,
Рукі ворагу лізаць,
Словы йльсьцівыя казаць!
1918

**(Далей будзе)**

# Памяці духоўнага Айца, Змагара за волю Беларусі

29 ліпеня 1960 году адыйшоў у вечнасьць Мітрафорны Пратаіерэй сьв. БАПЦарквы Айцец Хведар Данілюк, настаяцель Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку, адзін з удзельнікаў Слуцкага Паўстаньня.

Айцец Хведар Данілюк нарадзіўся 12 жніўня 1887 г. у вёсцы Сурынка на Слонімшчыне. Жыцьцёвая дзейнасьць а. Хведара адзначылася сярод беларускага грамадзтва ў двух кірунках: як ваеньніка й барацьбіта за волю Беларусі, і як сьвятара-будаўніка сьв. БАПЦарквы.

У 1914 г. ён быў змабілізаваны ў расейскую армію. Ваенны шлях I-ай сусьветнай вайны пачаў простым жаўнерам, а ў 1917 г. быў узьведзены ў рангу ахвіцэра. Калі пасьля рэвалюцыі 1917 г. паняволеныя Расеяй народы пачалі хаданьне за сваю незалежнасьць, дык сярод беларускіх ваеньнікаў малады ахвіцэр Хведар Данілюк быў адным з найбольш гарачых староньнікаў арганізацыі свайго войска. Як нацыянальны камісар, ён паклаў шмат высілкаў пры беларусізацыі IV-га Корпусу на Румынскім фроньце, ды намагаўся перакінуць вайсковыя аддзелы, зложаныя зь Беларусаў, у Менск на падтрымку нацыянальных арганізацыяў Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак, няспрыяльныя варункі таго часу не дазволілі зрэалізаваць пастаўленыя мэты. Пры выбуху Слуцкага Паўстаньня ахвіцэр Хведар Данілюк прыняў удзел у ім як начальнік вучэбнае каманды.

На пачатку польскае акупацыі ён выкарыстоўваў усялякія магчымасьці дзеля арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак, не зважаючы на перасьлед з боку польскіх уладаў. Пасьля Рыскага Трактату й падзелу Беларусі далейшая дзейнасьць нашых вайскавікоў стала немагчымай.

Аддаўшы павіннасьць Беларускаму Народу як жаўнер, а. Хведар пастанавіў прыняць духоўны сан, да чаго меў нахіл з раньняй маладосьці. 24 верасьня 1921 г. горадзенскі япіскап Уладзімер рукапалажыў Яго ў сан іерэя. З гэтага часу пачынаецца другая палова Ягонага жыцьця й дзейнасьці. Сьвятарскі шлях а. Хведара быў таксама нялёгкі. Давялося ўсьцяж змагацца з польскім ціскам на царкву ды цярпець і асабісты ўціск ды мсьцівасьць польскіх уладаў.

У 1942 г. а. Хведар Данілюк прыняў удзел у Царкоўным Саборы сьв. БАП Царквы ў Менску, ды з таго часу стаўся цьвёрдай апорай Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. На эміграцыі ён разам з а. Сьцяпанам Войтэнкам былі першымі сьвятарамі, якія прыступілі да аднаўленьня БАПЦарквы.

Сьмерць Айца Хведара балюча адбілася перадусім на БАПЦаркве і на верніках прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку ды пакрыла глыбокай жалобай беларускіх вайскавікоў — вэтэранаў.

У знак удзячнасьці й пашаны да Айца Хведара Данілюка Царкоўная Рада Прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку і Арганізацыя Беларускіх Вэтэранаў просяць беларускае грамадзтва прыняць удзел у пабудове помніка на Ягонай магіле на беларускіх могілках у Нью Брансвіку.

Мы цьвёрда верым, што кажны сьведамы Беларус, ці Беларуска, згодна з навукаю Сьв. Апостала Паўла: Памінайце настаўнікаў вашых, якія казалі вам Словы Божыя, з радасьцяй адклікнецца на гэтую нашую просьбу і пасьпяшыць злажыць магчымую для сябе ахвяру на пабудову помніка духоўнаму Айцу — Настаўніку і Змагару за Свабоду Беларусі: Айцу Хведару Данілюку.

Ахвяры просім перасылаць на адрыс:
Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

або асабіста пераказваць спадару Янку Ніхаёнку.

Нью Ёрк, Сакавік 1961 г.

**Арганізацыйны Камітэт:**

**Царкоўная Рада Прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку**

**Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку**

## Зь беларускай песеннай скарбніцы

### Ой, хадзіў, гуляў, малойчыку

**(Беларуская народная лірычная песьня)**




1. Ой, хадзіў, гуляў, малойчыку па гары крутой,
Ды часаў ён русы валасы праваю рукой.
2. Надаела, надакучыла, завіваючы, —
На чужыя, на харошыя паглядаючы.
3. А чужыя ўсё харошыя, як ружовы цьвет,
А мне шэльма ды няўдашачка завязала сьвет.
4. Ой, вазьму я ды няўдашачку за праву руку,
Ды і кіну я няўдашачку у быстру раку.

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя зьмешчана: у першым тахце ў ніжнім голасе, у другім тахце — ў верхнім голасе, у трэйцім тахце ідзе, як паказана пад знакам зоркі (пасьля канца песьні), а ў вапошнім, чацьвертым тахце пераходзіць у ніжні голас. Пры выкарыстаньні арыгінальнай мэлёдыі песьня вельмі добра надаецца для салёвага выкананьня.

### Туман, туман па даліне

**(Беларуская народная лірычная песьня)**




1. Туман, туман па даліне,
Шырок лісток на каліне,
Шырэй таго на дубочку —
Кліча галуб галубачку.
2. Кл'ча сваю, ня чужую:
Чакай, сэрца, пацалую, —
— Пашто табе цалаваці,
Сэрцу тугі задаваці.
3. — Не задавай сэрцу тугі,
Ня возьмеш ты — возьме другі, —
Цяжка рыбцы Дунай плысьці, —
Мне маладой замуж ісьці.
4. Цякла рэчка ручайкамі,
Плача дзеванька сьлязамі.
— Ня плач, дзеўка ня журыся,
Я йшчэ холаст, — ня жаніўся.

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя ідзе: першы тахт у ніжнім голасе, а далей і да канца — у верхнім.

# Зь беларускага жыцьця

### Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

У гэтым годзе у БАПЦаркве Багаслужбы ў Кліўлендзе, як у Перадвялікодным Тыдні, гэтак і на Вялікдзень адбываліся рэгулярна й больш урачыста, як папярэднія гады. Расклады Багаслужбаў былі разасланыя кажнаму прыхаджану ды падана ў мясцовую амэрыканскую газэту.

У вялікі чацьвер цёмная ноч ціха апусьцілася над зямлёю. Усё чакала чагосьці таямнічага, вялікага. А 7-ай гадз. увечары распачынаецца Утраньняя і чытаньне дванаццаці Евангельляў. Чытаньнем а. Александар Крыт стараецца выказаць ня толькі зьмест і веліч сьвятога пісьма, але й мадуляцыяй голасу пераказаць спачуваньні, асабліва чытаючы пабеларуску. Між чытаньнем хор пад дэрыгенствам сп. К. Кіслага выклікае асаблівае пачуцьцё ў вернікаў. Сьпеў і трыё «Разбойніка» аканчальна зачароўваюць усіх

У Вялікую Пятніцу цішыня напружвае ўсю людзкую істоту. Ня чуваць ужо й звону на новапабудаванай Царкве. У гэты дзень сьвятар выносіць з аўтара Сьв. Плашчаніцу. Зь вялікаю пабожнасьцю абносіцца Яна навокал свае беларускае сьвятыні і кладзецца на навазробленым гробе на сярэдзіне царквы. Патанае яна сярод жывых прыгожых красак, якія ахвяраваў адзін з прыхаджанаў.

У Вялікую Сыботу рана служыцца Ерузалімская Утраньня і Вячэрня зь Літургіяй Васіля Вялікага, а вечарам а 9-ай гадз. распачалося чытаньне Дзеяньня Апосталаў. А 11.30 царква ўжо запоўненая вернікамі. Жалобны сьпеў канону мімаволі змушае душы быць сумнымі Плашчаніца ўносіцца й кладзецца на прастол. Замёрла дыханьне вернікаў. Ціха чуецца сьпеў: «Воскрэсеньніе Твое Хрысьце Спасе»... Паволі адсоўваецца царкоўная заслона і ўсе выходзяць з Царквы, твораць «крэсны ход» навокал царквы. Надыходзіць дзіўнае ўяўленьне. Неба нібы спусьцілася і асьвяціла грэшную зямлю. Зямля нібы злучаецца зь небам... Хрыстос Уваскрос!...

Ніякая хрысьціянская царква гэтак урачыста не спатыкае Уваскрослага Хрыста, як наша родная беларуская праваслаўная царква. У царкве ўсё прыбрана, мноства красак, пах ладану й кадзіла, адчыненыя Райскія вароты, безьліч сьвечак, цудоўны сьпеў Вялікоднага канону: — усё гэта пераносіць нас у той радасны жыцьцёвы шлях, да якога мы ймкнемся. Радасьць для ўсіх зазьяла. Аб гэтым абвяшчае слова Івана Златавуснага, слова, якое чытаецца на Утрэньні. І ў гэтым годзе яно ўзьвялічыла яшчэ больш радасьць у душах вернікаў, бо чытаў яго а. Александар у роднай беларускай мове. Усе прасілі Уваскрослага Бога нашага Ісуса Хрыста, каб радасьць вялікодная, як той дабрадатны агонь, была заўсёды з намі.

Пасьля пасьвячэньня Пасхаў апусьцела царква, але ажывіўся Парахвіяльны Дом, дзе стараньнем ахвярных вернікаў былі прыгатаваныя вялікодныя сталы і распачалося традыцыйнае беларускае разгаўленьне.

*

9-га красавіка Харваты сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці. Ужо ад даўжэйшага часу Беларусы й Харваты ў Кліўлендзе жывуць вельмі дружна. Мелі супольную фудбольную дружыну ды ходзяць адны да другіх на імпрэзы. І гэтым разам Харваты запрасілі Беларусаў на свае сьвята. На Акадэміі Старшыня Аддзелу БАЗА сп. Ю. Гасьцееў прывітаў Харватаў ды пажадаў, каб супрацоўніцтва між нашымі народамі было й далей. У мастацкай частцы школьная моладзь выканала два беларускія народныя танцы: «Мікіту» і «Лявоніху». Абодвы танцы вельмі спадабаліся гледачом, а асабліва шпаркая й вясёлая «Лявоніха». Некалькі раз танцы заглушалі бурнымі воплескамі, а на заканчэньне быў падараваны маладым танцорам прыгожы букет красак. Пасьля мастацкае часткі распачаліся танцы. Беларуская салістка Іра Каляда сваім прыгожым голасам падмацавала аркестру.

*

15-га красавіка Г. К. ЗБМА ладзіла вечарыну. Прыгожа й старанна грала аркестра «Палесьсе» пад кіраўніцтвам Ул. Літвінкі. Салістка Іра Каляда прасьпявала пад аркестру некалькі танцаў. Жаночае Згуртаваньне наладзіла багаты буфет, каб памагчы моладзі. Было шмат гасьцей. Вечар прайшоў у вельмі сяброўскай і вясёлай атмасфэры ды прынёс прыбытак у касу.

*

16-га красавіка адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарчы сход кліўлендзкага Аддзелу БАЗА. Пасьля малітвы ўступаючы Старшыня Аддзелу сп. Ю. Гасьцееў адкрыў сход і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм. У прэзыдыюм увайшлі сп. К. Кіслы — старшыня, сп. С. Карніловіч — сакратар. Сакратар Аддзелу Ул. Дунец прачытаў пратакол з апошняга гадавога сходу, Старшыня прачытаў справаздачу ўступаючае Управы, скарбнік сп. А. Каспаровіч зрабіў справаздачу зь фінансаў. Сп. В. Сьпічонак прачытаў Акт Рэвізыйнае Камісіі. Пасьля рэчовае дыскусыі сход прызнаў уступаючай Управе абсолюторыюм з падзякаю.

У новую Управу былі выбраныя наступныя: Ю. Гасьцееў — старшыня, В. Семянчук — заступнік, Ул. Дунец — сакратар, А. Каспаровіч — скарбнік і Іра Каляда — культурна-асьветны рэфэрэнт. Сход прайшоў вельмі спакойна й паважна. Шкада толькі, што некаторыя зь вялікімі прэтэнсіямі не маглі навет прыйсьці на сход, магчыма, былі занятыя іншымі справамі, якія разьбіваюць грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё калёніі. Лечачы іншых захварэлі й самі, хаця яны гэтага й ня бачаць. **Ул. Д.**

# Сеем грэчку!

Горад Новагеоргіеўск перайменаваны на «Хрушчоў». На старонках савецкай прэсы штораз часьцей зьяўляецца прозьвішча Хрушчова. Мастакі-кар'ерыстыя штораз часьцей прыгадваюць Хрушчова. Можна сказаць, што ўжо Хрушчоў афіцыйна зьяўляецца пераможцам пад Сталінградам.

З гэтага можна меркаваць, што ў СССР ствараецца новы, чарговы культ асобы. Тут няма ніякага дзіва: пры таталітарных рэжымах бяз культу — ні сюды і ні туды. Вось толькі застаецца чакаць, калі Хрушчова — як калісь Сталіна — абвесьцяць карыфэем усіх навук. І тут ня будзем дзівіцца: Савецкі Саюз — краіна ўсякіх магчымасьцяў, кантрастаў і кур'ёзаў. Дык чаму Хрушчоў ня можа быць карыфэем? Ён-жа гаворыць літаральна на ўсякія тэмы. Ці ён заўсёды гаворыць талкова ці не — гэта іншая справа. Факт, што гаворыць.

Да гэтага-ж Хрушчоў можа пахваліцца і пэўнымі вынаходзтвамі. Напрыклад — цаліна. Праўда, асвойваньне гэтай праклятай цаліны прыносіць шмат няшчасьцяў народам Савецкага Саюзу, а перш за ўсё людзям, якія мусяць ехаць яе асвойваць. Але ў краіне «дыктатуры пралетар'яту» з гэтым найменш лічацца. Там пішуць «усё для чалавека!», а чытаюць «усё ад чалавека!»...

Кукуруза. Праўда, яна існавала і перад Хрушчовам, аднак Хрушчоў першы дадумаўся сеяць яе там, дзе яна ня хоча расьці. Дык вось на загад Хрушчова яе сеюць там, дзе яна не расьце і... яна не расьце...

Цяжка ў кароткім артыкуле пералічыць усе мудрасьці й вынаходзтвы Хрушчова. Аб гэтым можна напісаць некалькі томаў пад загалоўкам: «Энцыклянэдыя кур'ёзаў».

Таму возьмем толькі некалькі прыкладаў зь беларускага жыцьця. У 1958-м годзе Хрушчоў гаварыў на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі Беларусі:

«У Беларусі павінна быць царства вадаплаўнай птушкі. Гусяціна і качынае мяса — вельмі добрае мяса...»

Бог мой! Як гэта геніяльна сказана! Толькі шэльмы гусі і качкі байкатуюць гэты мудры загад і яны аскубаныя і выпатрашаныя не прадаюцца і не здаюцца дзяржаве. Савецкая прапаганда ў Беларусі крычыць: «Асвоім блакітную цаліну — беларускія рэкі й вазёры!» Аднак гэта не памагае, бо-ж сотні тысяч Беларусаў гібеюць на асвойваньні азіяцкай цаліны, а ў Беларусі не стае людзей і сяродкаў асвойваць сваю цаліну — якойбы яна ні была: чорнай ці блакітнай.

Нядаўна Хрушчоў сказаў: «...Трэба, каб Узбэкам быў плоў, а Расейцам, Украінцам і Беларусам — грэцкая і пшонная каша...»

Адразу савецкая прапаганда ў Беларусі закрычала: «Сейце грэчку!» Так гучыць загаловак перадавіцы ў 65-м нумары «Калгаснай праўды» у гэтым артыкуле мы чытаем: «Беларусь здаўна славіцца высокімі ўраджаямі грэчкі. Нажаль, у вапошнія гады многія кіраўнікі калгасаў і саўгасаў аслабілі да яе ўвагу...»

Грэчка, як і інцы авёс — збажына не благая і абняхайваць яе ня трэба. Аднак станем у вабарону беларускіх сялян. Як-жа яны маглі сеяць грэчку, калі ім загадвалі квадратна-гнёздавым спосабам сеяць хрушчоўскую кукурузу? І вось гэтую кукурузу сеялі на найлепшых землях, палолі яе ўдзень і ўночы, няньчыліся зь ёй, як з наравістым дзіцём, а яна не хацела расьці навет да малочнай сьпеласьці.

Цяпер да «сьветлай будучыні камунізму» будзем бегчы наеўшыся шэрай грэцкай кашы. Гэта можа было-б навет няблага, каб гэтая каша была густа запраўленая скваркамі. Але скваркі — гэта яшчэ праблема, дык давядзецца есьці кашу незаскварaную. Пры гэтым беларускі селянін прыгадае старую прыпеўку:

«Гоп, мае грачанікі! Гоп мае ячны!
Ды чаму-ж вы, грачанікі, такія
[нясмачны?»...

**пс**

# УВАГА! УВАГА!

**Выдавецтва Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Кліўлэндзе ўжо выдала ў прыгожым кніжным выданьні**




**«Беларускі Песенны Зборнік» абыймае 228 бачынаў і зьмяшчае 92 песьні з нотамі. Зборнік дзеліцца на пяць разьдзелаў: Зь гістарычнага мінулага, рамансы й песьні на словы беларускіх паэтаў, лірычныя народныя песьні, песьні лёгкага жанру і жарты, гульні й скокі.**

**Цана аднэй кніжкі ў ЗША й Канадзе 10 даляраў, а ў іншых краінах 5 даляраў. Выпісваць можна ў Прадстаўніка «Бацькаўшчыны» ў Кліўлэндзе а таксама ў большых беларускіх асяродках.**

**Купі сам і заахвоць свайго знаёмага, а гэтым дапаможаш выдаць наступныя выпускі беларускіх песьняў.**

### АБВЕСТКА

Падаецца да ведама, што ўзноўленае выдаваньне першага беларускага эвангельскага месячнага часапісу «Сьветач Хрыстовае Навукі». Асобы, што жадаюць атрымліваць часапіс, могуць пісаць на адрыс:

The Torch of Christ's Teaching
c/o John Piotrowski
Central Square, New York, USA

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76. Tiridentes, Curitiba — Parana

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski**, 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**